# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 5 (64) Красавік 2012 г.


## Андрэй Саньнікаў - на свабодзе!



Кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году Андрэй Саньнікаў 14 красавіка быў вызвалены зь віцебскай калёніі. Паплечнікі былога кандыдата на прэзыдэнта выехалі па яго зь Менску. Люцына Бяльзацкая, маці Ірыны Халіп паведаміла, што Саньнікаў сам пазваніў Ірыне і сказаў, што яго выпусьцілі.

**«Перш за ўсё я хачу падзякаваць людзям за салідную падтрымку. Гэта была сапраўды моцная падтрымка. Я нават фізычна адчуваў гэта. Салідарнасьць людзей мяне ня толькі падтрымлівала, але і выратавала»**, — заявіў Саньнікаў. Саньнікаў сказаў, што не гатовы адказаць на пытаньне, як ён ставіцца да Лукашэнкі, які падпісаў памілаваньне. Ён таксама сказаў, што пакуль не гатовы адказаць на пытаньне пра свае пляны.

Саньнікаў заявіў, што на здароўе ня скардзіцца, але мае прастуду. Саньнікаў таксама паведаміў, што прыкладна а 17:30 яго выклікалі ў адміністрацыю калёніі «Віцьба-3» і сказалі зьбіраць рэчы. Потым паказалі даведку, у якой быццам бы была спасылка на ўказ прэзыдэнта пра памілаваньне. Саньнікаў хуценька сабраў рэчы, яго завезьлі на чыгуначны вакзал. Адтуль ён патэлефанаваў жонцы і адвакату.

## Міліцэйскі начальнік прызнаў, што, затрымаўшы Пятра Іванова, праваахоўнікі парушылі закон

Віцебскі актывіст Пётар Іваноў часткова дамогся праўды. Ён зьвяртаўся ва ўпраўленьне ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкаму са скаргай на дзеяньні міліцыянтаў, якія напярэдадні Калядаў затрымалі яго і на тры дні зьмясцілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня. Пагарджаньне заканадаўствам з боку супрацоўнікаў аховы правапарадку падчас згаданых падзеяў было настолькі відавочным, што падпалкоўнік міліцыі Аляксандар Рукаль, чый подпіс стаіць пад адказам, атрыманым Пятром Івановым з УУС, вымушаны быў прызнаць: сапраўды, міліцыянты парушылі закон.

Паводле Аляксандра Рукаля, які займае пасаду начальніка ўправы аховы правапарадку і прафіляктыкі УУС Віцебскага аблвыканкаму, само затрыманьне актывіста і зьмяшчэньне яго ў спэцыяльную ўстанову міліцыі да разгляду адміністрацыйнай справы ў судзе было нібыта правамерным. Аднак **тое, што пра затрыманьне не было паведамлена ў консульскія ўстановы Расейскай Фэдэрацыі - Пётар Іваноў зьяўляецца грамадзянінам Расеі - гэта, сапраўды, ёсьць парушэньне патрабаваньняў міжнароднага права, а менавіта Консульскай канвэнцыі паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Фэдэрацыяй.**

Па гэтым факце ў АУС адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску праведзеная праверка, па выніках якой прынятыя меры рэагаваньня да службовых асоб АУС, якія не забясьпечылі апавяшчэньне консуляту, паведаміў падпалкоўнік Рукаль. Якія канкрэтна "меры рэагаваньня" былі прынятыя і ў адносінах да каго, міліцэйскі начальнік не ўдакладніў. Затое ён зазначыў, што "з мэтаю недапушчэньня гэткіх фактаў у будучыні з асабовым складам АУС праведзеныя заняткі па вывучэньні патрабаваньняў вышэйзгаданай канвэнцыі".



Нагадаем, **6 студзеня Пётар Іваноў расклейваў улёткі з заклікам падтрымаць у судзе Сяргея Каваленку. Неўзабаве ён быў схоплены міліцыянтамі і дастаўлены ў пастарунак. З аддзяленьня міліцыі актывіста адправілі на трое сутак у ІЧУ, пасьля вызваленьня зь якога ў ягонай кватэры ўчынілі ператрус. У выніку Пятра Іванова судзілі не за ўлёткі, а за тое, што ён быццам бы нецэнзурна лаяўся. Нягледзячы на шматлікія супярэчнасьці ў паказаньнях сьведак-міліцыянтаў, Кастрычніцкі райсуд Віцебску прызнаў актывіста вінаватым у зьдзяйсьненьні правапарушэньня і прызначыў яму штраф у памеры 4-х базавых велічынь.**

# Сяргей Каваленка пачаў выхад з галадоўкі



Бацька актывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Сяргея Каваленкі, які вёў працяглую галадоўку, 13 красавіка меў зь ім сустрэчу ў ахоўным аддзяленьні Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру ў Навінках. Туды Сяргей Каваленка пераведзены з аддзяленьня рэспубліканскага турэмнага шпіталю пры калёніі "Віцьба—3". Паводле словаў Аляксандра Каваленкі, яго сын пачаў выходзіць з галадоўкі і прымае ежу самастойна:

**"Ён ужо стаў патроху выходзіць з галадоўкі. Кармілі прымусова яго, а зараз ён ужо сам есьць. Ён вельмі худы – скура ды косьці. Трымаецца нармальна. Я зараз завёз яму сокі, садавіну. Мне дазволілі зь ім паразмаўляць. Ён цяпер знаходзіцца на экспэртызе. Яго ня лечаць, а цягам месяца будуць назіраць. Першы раз, як яго прывозілі ў Менск, зьдзекаваліся зь яго: невядома што калолі, прывязвалі на два, на тры дні да ложка. У прыбіральню не выпускалі, уводзілі катэтар у мачавы пухір".**

Паводле словаў Аляксандра Каваленкі, ягоны сын настойваў, каб яго, нягледзячы на цяжкі стан, завезьлі на разгляд яго касацыйнай скаргі ў Віцебскім абласным судзе 10 красавіка. Калі яму было адмоўлена, ён пачаў вырываць катэтары з рук і моцна пашкодзіў сабе вену на левай руцэ, на якой застаўся шрам. Аляксандар Каваленка паведаміў, што Сяргей вельмі цікавіцца падзеямі на волі і не адмаўляецца ад сваіх поглядаў.

***Выканаўца абавязкаў старшыні КХП-БНФ Юры Беленькі:***

«Сяргей перамог рэжым. Рэжым аказаўся са сваімі войскамі і сілавымі структурамі бясьсільны перад воляй чалавека, які нясе сьветлую ідэю, які змагаецца за справядлівасьць, праўду. Гэта вельмі красамоўна было прадэманстравана тым людзям, якія сачылі за тым, што адбываецца.

Рэжым, калі зразумеў, што далей толькі горш будзе для яго, ён прымяніў да Сяргея прымусовае сілкаваньне. Прычым, як і заўжды, парушаў нормы дзейнага заканадаўства. Свайго ж заканадаўства. Галадоўка была гвалтам спыненая, таму далей сэнсу не было яе працягваць. Далей гэта толькі на шкоду здароўю Сяргея. Тым больш у нас былі зьвесткі, як гэтае прымусовае сілкаваньне адбываецца, якія прадукты праз гэты зонд уводзяць. Як сьведчылі спэцыялісты, гэта было нядобра для здароўя Сяргея. Мы вельмі прасілі Сяргея, каб была галадоўка спыненая.

Гэтае змаганьне Сяргея ня толькі прыцягнула ўвагу часткі грамадзтва і беларускага, і замежнага. Але ў значнай ступені раскрыла тое беззаконьне, якое ў дачыненьні да Сяргея ад пачатку было. Былі заключэньні экспэртаў пра тое, што Сяргея зьбівалі. І гэта пацьвярджае ягоныя сьведчаньні. Высьветлілася прадузятасьць з боку работнікаў міліцыі».

***Праваабаронца Тацьцяна Равяка:***

«Вельмі важна, што чалавек захавае сваё жыцьцё і здароўе. Ён сваёй галадоўкай, вядома, прадэманстраваў стойкасьць, мужнасьць, адданасьць сваёй пазыцыі, нязломнасьць. Але жыцьцё — гэта занадта дарагі кошт. І здароўе — дарагі кошт. Гэта малады чалавек. Яму трэба жыць, трэба выхоўваць дзяцей. Трэба вярнуцца як мінімум здаровым да сваёй сям'і.

І да яго неаднаразова зьвярталіся. І мы пісалі яму ліст пра тое, што мы, вядома, разумеем ягоны адчайны крок, але просім яго дзеля сябе, дзеля сям'і, дзеля дзяцей, дзеля будучыні спыніць галадоўку. І сёньня для нас гэта добрая перадвелікодная навіна. Я лічу, што гэта вельмі правільнае рашэньне. Вельмі спадзяюся, што і сам Сяргей у хуткім часе будзе на волі. І яго будзе сустракаць сям'я здаровым, дужым, мужным. Такім, якім ён патрэбны сваёй сям'і і ўсім нам».

## У Віцебску зноў затрымалі распаўсюдніка выданьня "Наш дом-инфо"

Віцебская міліцыя зноў затрымала распаўсюдніка газэты «Наш дом-инфо». Актывіста Сяргея Соўпеля затрымалі пры выхадзе з пад'езду дому № 37 па вуліцы Чкалава. Яго даставілі ў Першамайскі РАУС г. Віцебску, дзе пратрымалі больш за тры гадзіны. Актывісту выдалі копію пратаколу, у якім сказана, што ён распаўсюджваў газэту «Наш дом». Яго абвінавачваюць у парушэньні артыкулу 29.9 ч. 2 КаАП РБ - «незаконны распаўсюд друкаваных сродкаў масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

## Зьміцер Дашкевіч: «Як вы там жывяце? Добра я - мне кашу даюць»



Зьмітра Дашкевіча наведаў адвакат, паведаміла нявеста палітвязьня Наста Палажанка. **«Дзіма на той момант, як мы прыехалі, ведаў пра вызваленьне Саньнікава і Бандарэнкі, быў вельмі рады, віншаваў іх і сем'і. А ў самога Зьмітра нічога не зьмянілася. Хіба толькі распавёў, што яму нядаўна дазволілі "атаварку" ў турэмнай краме, упершыню за працяглы час і на 100 тысяч рублёў. Казаў, што быў вельмі рады, і пры гэтым зьдзівіўся, якія вялікія ў нас кошты. Пытаўся: як вы там жывяце, добра я - мне кашу даюць»**, - распавяла Наста Палажанка. Лідэра «Маладога фронту» Зьмітра Дашкевіча трымаюць у памяшканьні камэрнага тыпу ў Глыбоцкай калёніі.

# На “адкрытыя” судовыя працэсы ў Віцебску зноў не пускалі…

**Віцебскі абласны суд 18 красавіка не задаволіў касацыйныя скаргі старшыні партыі «Справядлівы сьвет» Сяргея Калякіна і праваабаронцы Валера Шчукіна на рашэньні суду Аршанскага раёну, які аштрафаваў іх напрыканцы сакавіка на 10 і 34 базавыя велічыні адпаведна. Суд у Віцебску зноў прайшоў фактычна ў закрытым рэжыме.**

У будынак суду не прапусьцілі нікога з тых, хто прыйшоў падтрымаць Шчукіна і Калякіна. Вялікая група з журналістаў, грамадзкіх актывістаў і прадстаўнікоў партыяў АГП і «Справядлівы сьвет» чакалі заканчэньня паседжаньняў на парозе будынку суду пад пільным наглядам супрацоўнікаў у цывільным. Затое перад пачаткам паседжаньняў будынак абласнога суду наведаў новы начальнік абласнога КДБ Уладзімер Арчакоў.

У суд людзей не дапусьцілі ўсё з той самай прычыны - «адсутнасьці месцаў» у залі паседжаньняў. Як потым высьветлілася, памяшканьні, у якіх праходзілі слуханьні, сапраўды былі напоўненыя людзьмі, многія зь якіх былі апазнаныя як супрацоўнікі міліцыі. Здаецца, такі выкрут робіцца на палітычных працэсах у Віцебску традыцыйным. Спосаб, як яго абыйсьці, пакуль ня знойдзены.



Сяргей Калякін

**Не параілася з сумленьнем**

Нагадаем, *Сяргея Калякіна* ў кампаніі з кіраўніком АГП Анатолем Лябедзькам і каардынатарам «Эўрапейскай Беларусі» Аляксандрам Атрошчанкавым аштрафавалі за дробнае хуліганства. Яны нібыта брыдкасловілі і парушалі спакой грамадзян, знаходзячыся ў цягніку Менск - Масква, за што былі зьнятыя зь цягніка і затрыманыя ў Воршы. Як высьветлілася, 18 красавіка Віцебскі абласны суд разглядаў аднachасова і скаргу Атрошчанкава і таксама адмовіў у яе задавальненьні. А вось скаргу Лябедзькі, паводле словаў прысутнага на судзе Калякіна, судзьдзя Смалякова ня адшукала.

Асноўныя прэтэнзіі, названыя ў скарзе Калякіна, тычыліся парушэньняў ягоных правоў, прадугледжаных працэсуальным заканадаўствам. Так, Аршанскі суд не запатрабаваў відэазапісаў, што вяліся падчас затрыманьня палітыкаў у вагоне, на пэроне вакзалу і ў аддзеле ўнутраных спраў на транспарце. Пра гэта хадайнічалі абвінавачаныя. Былі парушаныя правы на абарону: Калякіну ў Воршы не далі зьвязацца з адвакатам.

Яшчэ адна прэтэнзія тычылася парушэньня права на прыцягненьне сьведак. У суд у якасьці сьведкі ня выклікалі Віталя Рымашэўскага, які ехаў у адным купэ з затрыманымі, а таксама не ўзялі пад увагу паказаньні цывільных асобаў, чые сьведчаньні разыходзіліся з паказаньнямі сьведкаў-міліцыянтаў. Апрача таго, судзьдзя, як лічыць Калякін, неправамерна аб'яднала ўсе тры справы трох асобаў у адну, пазбавіўшы тым самым магчымасьці выклікаць у якасьці сьведак двух іншых.



Валер Шчукін

*«На жаль, сёньня судзьдзя не ўзяла пад увагу гэтыя найгрубейшыя парушэньні і папросту праштампавалі рашэньне, якое было загадзя падрыхтаванае,* - падзяліўся з журналістамі Сяргей Калякін адразу пасьля заканчэньня паседжаньня. - *Судзьдзя нават не знайшла часу параіцца са сваім сумленьнем. Яна адразу ж пасьля майго выступу ўстала і прачытала загадзя напісаны тэкст рашэньня. Я абсалютна перакананы, што гэтае рашэньне было перадвызначанае, і што ўся гэтая справа носіць заказны палітычны характар. Гэта вельмі прыкра, што нашы суды не зьяўляюцца месцам, дзе можна высьветліць праўду, дзе чалавек можа адстойваць свае правы...»* Тым ня менш Сяргей Калякін упэўнены, што праўда, рана ці позна, пераможа. І зьбіраецца абскардзіць рашэньне ў Вярхоўным судзе.

**Дамагчыся праўды? Толькі штурмам!**

Асноўная прэтэнзія праваабаронцы *Валера Шчукіна* таксама тычылася таго, што ў Аршанскім судзе яго пазбавілі права на абарону: *«Прысуд пакінулі ў сіле, скаргу - без задавальненьня. Хаця, паводле кодэксу, пазбаўленьне юрыдычнай дапамогі азначае стоадсоткавае скасаваньне рашэньня суду без якіх-кольвек агаворак. А мяне пазбавілі юрыдычнае дапамогі і ў міліцыі, і ў судзе».*

*«І добра б - самога адваката, але забралі і мабільны тэлефон. Ад-дайце мне мабільны - і я атрымаю ад адваката дапамогу праз тэлефон. Дык мне ж і гэтага і не далі зрабіць...»* - распавёў Валер Шчукін пасьля заканчэньня паседжаньня ў Віцебскім абласным судзе. Паводле словаў Шчукіна, ён прывёў дастаткова падставаў, каб рашэньне аршанскага суду было адмененае. Касацыйную скаргу Шчукіна разглядала судзьдзя Іванова. *«Судзьдзя, мабыць, хоча дапрацаваць да пэнсіі»*, - так пракамэнтаваў ейнае рашэньне Валер Шчукін.

На ягоную думку, дамагчыся праўды ў нашай краіне можна толькі штурмам: *«Я казаў і яшчэ раз кажу: трэба штурмаваць. Браць штурмам - іншага выйсьця няма. Усіх не перасадзяць! Калі кожная палітычная справа будзе канчацца скандалам, тады нешта зрушыцца зь мёртвага пункту...»* Нагадаем, Валер Шчукін штурмам спрабаваў праравацца на закрыты працэс 29 сакавіка над Лябедзькам, Калякіным і Атрошчанкавым ў Воршы. Пасьля таго, як яго не прапусьцілі ў залю паседжаньняў, праваабаронца на знак пратэсту заблякаваў сваім целам праход на трэйці паверх будынку суду. У выніку ён правёў ноч у аршанскім ІЧУ і быў на наступны дзень аштрафаваны судзьдзёй Тацьцянай Рыбаковай паводле двух артыкулаў КаАП - за хуліганства і за непадпарадкаваньне міліцыі - на 1 млн. 190 тыс. рублёў.

**Менш, чымся ў 1937-м ...**

На думку віцебскага праваабаронцы *Паўла Левінава*, рашэньні Віцебскага абласнога суду, які не задаволіў касацыйныя скаргі, зьяўляюцца незаконнымі: *«Яны незаконныя, бо, у адпаведнасьці зь дзейным заканадаўствам, пры парушэньні правоў на абарону ў адміністрацыйным працэсе пастанова наконт справы аб адміністрацыйным правапарушэньні падлягае безумоўнай адмене. Але... У нас даводзіцца плян па ўсім - па зборы ўраджаю, па надою малака і г. д. Даводзіцца плян і па адмененых судовых рашэньнях. І, згодна з гэтым плянам, іх практычна быць не павінна. І судзьдзі ня могуць адступіць ад гэтага пляну. У нас, паводле дадзеных, калі не памыляюся, за 2009-ы год, у працэнтных адносінах адмененых прысудаў было менш, чымся ў прыснапамятным 1937 годзе за савецкімі часамі...».*



Алена Семенчукова

Адзінай сьветлай плямай ў гэты дзень (18 красавіка) было рашэньне абласнога суду паводле скаргі віцебскай актывісткі *Алены Семенчуковай*, якая аспрэчыла памер штрафу, што прызначыў ёй суд Чыгуначнага раёну Віцебску за пікет на знак салідарнасьці зь Сяргеем Каваленкам, які яна зладзіла 20 сакавіка ля «сіняга» дому ў Віцебску. Абласны суд узяў пад увагу, што дзяўчына яшчэ ў судзе першай інстанцыі прызнала сваю віну, і зьнізіў штраф з 5 базавых велічынь да 0,5 б.в.

# Ян Дзяржаўцаў: Навошта ўлады прымаюць законы, якія самі не зьбіраюцца выконваць?



Адстойваючы сваё права на атрыманьне адказаў ад чыноўнікаў на беларускай мове, віцебскі лідэр КХП БНФ **Ян Дзяржаўцаў** дайшоў ужо да адміністрацыі прэзыдэнта.

Гэткае права забясьпечваецца артыкулам 18 Закону Рэспублікі Беларусь *«Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб»*, дзе абвяшчаецца: *«Пісьмовыя адказы на пісьмовыя звароты афармляюцца на мове звароту»*. Закон уступіў у сілу 22 студзеня 2012 году, і пакуль ня ўсе чыноўнікі выконваюць яго палажэньні.

Усе свае звароты ў органы ўлады **Ян Дзяржаўцаў** піша на беларускай мове. У адміністрацыю прэзыдэнта ён зьвярнуўся пасьля таго, як, даслаўшы заяўку на правядзеньне пікетаў, атрымаў адказ, напісаны па-расейску. Палічыўшы, што такім чынам намесьнік кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску **Аляксандар Красакоў**, подпіс якога стаяў пад адказам, парушыў згаданы закон, **Ян Дзяржаўцаў** накіраваў скаргі ў пракуратуру Першамайскага раёну Віцебску і Віцебскі аблвыканкам. Аднак ні пракуратура, ні выканкам не адрэагавалі належным чынам на гэтыя скаргі.

Надоечы **Ян Дзяржаўцаў** атрымаў ліст з адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Начальнік галоўнага ўпраўленьня па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб **Станіслаў Буко** інфармаваў актывіста, што ягоны *зварот накіраваны ў Нацыянальны цэнтар заканадаўства і прававых дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь.* Гэты цэнтар мае даручэньне паведаміць аўтару звароту ў адміністрацыю прэзыдэнта пра вынікі разгляду.

Ліст спадара Буко ўзбурыў Яна Дзяржаўцава. І справа нават ня ў тым, штó напісаў высокапастаўлены чыноўнік, а ў тым - як. **Станіслаў Буко** адказаў па-расейску. Улічваючы, якое пытаньне ўзьнімаў актывіст у сваім звароце, напрошваецца выснова: начальнік з адміністрацыі прэзыдэнта такім чынам наўмысна прадэманстраваў сваё зьняважлівае стаўленьне як да беларускай мовы, так і да закону аб зваротах грамадзян. **"Калі службовая асоба такога рангу дазваляе сабе ігнараваць патрабаваньні заканадаўства, дык чаго ж тады можна чакаць ад мясцовых чыноўнікаў? Невядома, навошта ўлады прымаюць такія законы, якія самі не зьбіраюцца выконваць"**, - выказаў сваё неўразуменьне **Ян Дзяржаўцаў**.

# Міліцыя спрабуе перашкодзіць кантактам Любові Кавалёвай з журналістамі

**Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі перашкодзіць сустрэчы расейскіх журналістаў з маці расстралянага Ўладзіслава Кавалёва. Сустрэча была запланаваная ў яе кватэры, але супрацоўнікі міліцыі пільнавалі журналістаў каля пад'езду. Любові Кавалёвай прапанавалі даць відэаінтэрвію для праграмы "Чалавек і закон". Але як толькі здымачная група выйшла з таксоўкі, ім перагарадзілі шлях супрацоўнік міліцыі і АМАПавец. Гаспадыня ўбачыла гэта з вакна і пайшла "вызваляць гасьцей"**:

"Добра, што я ўбачыла. Маглі, мабыць, і ўвогуле не пусьціць! Міліцэйская машына зьявілася каля нашага дому яшчэ гадзіны за дзьве да прыезду журналістаў — "жыгуль" прыпаркаваўся ў левым баку нашага двара... Калі я ўбачыла, што людзей не пускаюць, то спусьцілася ўніз, запытала: "Што, ужо да мяне людзям хадзіць забараняеце?". Тады ўсіх прапусьцілі, але перапісалі дакументы. Заявілі, нібыта суседзі скардзяцца на тое, што тут увесь час нейкія журналісты шукаюць "лябараторыю" Дзімы Канавалава".



Сям'я Канавалава, якога таксама расстралялі паводле абвінавачаньня ў тэрарызьме, жыве ў суседнім доме. Імаверна, "паляваньне на журналістаў" распачалося пасьля таго, як на сайце Радыё Свабода зьявіўся фотарэпартаж са склепу, дзе нібыта была лябараторыя па вырабе выбухоўкі. Некалькі дзён таму сарайчык, дзе Дзьмітры Канавалаў зьбіраўся зь сябрамі, і, паводле вэрсіі следзтва, вырабляў бомбы, стаяў адчынены...

Любоў Кавалёва дадае, што міліцэйская машына стаяла ў двары яшчэ й пасьля таго, як зьехалі тэлежурналісты. Супрацоўнікі міліцыі назіралі, хто яшчэ ўваходзіць і выходзіць з пад'езду, дзе жывуць Кавалёвы. Маці Ўладзіслава Кавалёва кажа, што ахова з боку міліцыянтаў ёй не патрэбная — што ў вінаватасьць сына яна ня верыць, што следзтва шмат каго не пераканала, і што ніхто ні разу ёй не пагражаў і не спрабаваў "адпомсьціць".

Сям'я Дзьмітрыя Канавалава, другога абвінавачанага ў тэракце, знаходзіцца пад міліцэйскай аховай зь сярэдзіны красавіка мінулага году. Бацькоў расстралянага Канавалава суправаджаюць у краму, адвозяць на службовай машыне на працу і нават сабачку Канавалавы выгульваюць пад канвоем людзей у цывільным.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.